Год VI. КАСТРЫЧНІК 1928 г. Кніжка 8 (18)




# Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.



ЗЬМЕСТ:



**Цана асобнага нумару 30 гр.**

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарная вул. № 1.

# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.


## Навука на службе земляроба.

З некаторага часу тая частка Беларусі, якая апынулася ў межах Польскае Рэспублікі, як быццам пачынае працаваць на ніве адраджэньня нашага адсталага земляробства. Адкрываюцца сельска-гаспадарчыя школы, курсы, розныя „kółki“, „towarzystwa“, „kasy“ і г. д. Адным словам, усё ідзе як па маслу і нам аставалася-б чакаць, што вось, вось па волі магічаскай палачкі, кіруемай „крэсавай“ шляхтай і асаднікамі, Заходняя Беларусь хутка пературарыцца з адсталай старонкі ў край з культурным узроўнем заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў. Але жыцьцё ідзе наперад, а справа з беларускім „культурным возам“, наладаваным чужым ды хворым нацыяналізмам, неяк стаіць усё на адным месцы. Сельска-гаспадарчыя школы літэральна пустуюць, а „kółki“ і „towarzystwa“ так паставілі працу, што зусім адпіхнулі ад сябе больш сьвядомых і актыўных беларускіх сялян.

Констатуючы гэты факт і абмінаючы разгляд усім вядомых прычынаў яго, трэба прызнацца, што пакуль „крэсам“ будзе паднасіцца „заходняя культура“ людзьмі нічога з ей ня маючымі супольнага, місыя нашых паноў асуджана на няўдачу і праца будзе толькі лішняй стратай народных грошаў.

Ня трэба песьціць у сябе надзею, што жыцьцё хутка пераканае нашых паноў шчыра падайсьці да нашай справы і чакаць зьмены ў адношаньні да нас, а чакаць-жа, што жыцьцё створыць больш спагадныя варункі для супольнай працы польскіх аграпрапагандных установаў з нашым земляробам — больш чым сумліўна.

Між тым зялезная воля экономікі ня церпіць чаканьня. Справа паляпшэньня эканомічнага быту адвечнага жыхара нашай старонкі і асвабаджэньня яе ад дапатопных прыёмаў у гаспадарцы даўно стала актуальнай. Далей спакойна назіраць, як наша вёска душыцца на трохпалёўцы, пры баечна нізкіх ураджаях—немагчыма. Час нам пераканацца, што ратунку тут ніхто нам ня дасьць, калі мы самі яго ня будзем шукаць.

Поступ у сельскае гаспадарцы адбываецца мэтодам дасьледаў. Шукаючы новых шляхоў да больш рацыянальнай пастаноўкі сваей гаспадаркі, гаспадар мусіць кіравацца досьледамі, якія яго забясьпечаць ад рызыкі лішніх стратаў на ніве.

На Беларусі глебы пераважна пескавыя, падзолістыя і балоцістыя. Усе яны адносяцца да так званых халодных глебаў і патрабуюць вельмі ўважлівых адносінаў. Адна і тая расьлінка ня можа аднолькава расьці на ўсіх глебах, усе глебы патрабуюць не аднолькавага ўгнаеньня і апрацоўкі. Разабрацца тут можна толькі пры дапамозе досьледаў, якія, будучы пастаўлены ў малым маштабе, ратуюць гаспадара ад рызыкоўнага мерапрыемства ў больш вялізным маштабе.

Шмат векавых назіраньняў нашых перадавых сялян хаваецца без грамадзкай карысьці пад саломенай страхой. Гэты вопыт трэба зараз-жа вынесьці ў сьвет, чаму дапаможа і да чаго заклікае рэдакцыя „Сахі“. Супольная праца нашых чытачоў і падпішчыкаў на старонках нашае часопісі ня толькі пажадана, але і неабходна.

Хай нас не палохае, што нашы сяляне часта не разьбіраюцца ў зьявішчах прыроды і ў адношаньні іх да росту сельска-гаспадарчых расьлінаў, з чаго могуць быць абмылкі. На абмылках мы навучымся больш правільна разбірацца ў такой сложнай машыне, як сельская гаспадарка. Тут самі вучачыся, будзем і другіх вучыць.

З гэтага нумару „Саха“ адкрывае аддзел для працы нашых сялян дасьледчыкаў, якім дае інфармацыі, інструкцыі і матэрыялы.

Дык, да працы, браты—сяляне! Будзем помніць, што ратункам для нас і нашага краю будзе тут — паваланьне навукі на службу земляроба.

**Рэдакцыя.**

# Балотная гаспадарка.

(*Менская балотная дасьледчая станцыя*).

Наш край — край балот, якія параскіданы па ўсіх кутках Беларусі. Лежачы пусткамі, балоты — гэтыя схоўнікі натуральнага багацтва, нясуць нашаму краю нязьлічаныя страты і шкоды, затрудняючы камунікацыю і заражаючы паветра хвараблівымі пачаткамі. Каўтун, малярыя, рэўматызм і іншыя хваробы, зьяўляюцца сапутнікамі балот.

Заграніца даўно ўжо зьвярнула ўвагу на свае балоты і рука чалавека ператварыла іх у культурныя абшары. Слаўная на ўвесь сьвет сваей культурнасьцю маленкая Данія і Голяндыя збудавалі сваё багацтва і культуру якраз на балоце.

У нас над вывучэньнем умоваў балотнай гаспадаркі больш усяго працуе ў сучасны момант Менская балотная станцыя, якую і разгледзімо ў гэтым нарысе.

У адлегласьці двух вёрст ад Менска, на былом Камароўскім балоце, ў 1911 г. была заложана балотная дасьледчая станцыя. Працу сваю пачала яна з 1913 г. Вялікая Вайна, а потым Польска-Савецкія наступленьні і адступленьні працу на час спынілі. Толькі з 1922 г. стварыліся спрыяючыя ўмовы для пашыреньня працы ў шырокім маштабе.

Менская балотная станцыя мела перад сабой заданьне— выясьніць магчымасьць вядзеньня сельскае гаспадаркі на асушаным балоце і знайсьці найпрасьцейшыя практычныя способы асушкі нашых балот. У гэтым кірунку праца на станцыі праводзіцца і цяпер.

У сучасны момант пад досьледамі знаходзіцца каля 100 дзесяцін асушанага балота. Значная частка гэтага абшару занята пад культурай збожжа. Травам станцыя ўдзяляе значную ўвагу, бо балоты ўжо па сваей прыродзе прызначаны для сенажацяў, як роўна-ж і для таго, што прыродныя і экономічныя ўмовы Беларусі прымушаюць пашырыць галіну сельскае гаспадаркі -- жывёлагадоўлю. Апрача таго, пасеў траў на балоце спрыяе зьнішчэньню розных сарнякоў — галоўных ворагаў балотнай гаспадаркі.

З гэтае прычыны на балоце станцыі ўведзены наступны 10-ці палёвы сеавзварот:

1 год—травы, 2—травы, 3—травы, 4—травы, 5—травы, 6—травы, 7—жыта, 8—ярына, 9—палова поля — віка — аўсяная сумязь і палова канаплі, 10—бульба і корняплоды,

Пры такім севазвароце, апрача траў, нішчыць сарнякі на балоце і культура асыпных расьлін.

**Як асушана балота на станцыі.** Асушка балот праведзена адкрытымі і закрытымі канавамі — дрэнаваньнем. Дрэнамі бываюць — фашыны (хвораст), жэрдзі (4—5 жардзін у канаве), дрэны Бутца (драўляныя трубкі) і ганчарскія дрэны (паленыя гліняныя трубкі). Адлегласьць паміж равамі бывае 10—15 саж., пры глыбіві каля 1½ арш. Чым гусьцей праведзены канавы, тым лепш разьвіваліся на балоце расьліны. Найпрасьцей і лягчэй асушыць балоты адкрытымі канавамі і фашынамі.

**Угнаеньне балот.** Асушанае і ўзоранае балота яшчэ вымагае ўгнаеньня, бяз чаго культурныя расьліны будуць слаба расьці. Угнаеньне трэба падбіраць пад гатунак глебы балота.

Пад травы на станцыі кладуць каля 20—22 пудоў суперфасфату, ці 20—24 пуд. тамасоўкі і 12—18 пуд. паташовай солі. Для некаторых балот фосфар зьяўляецца непатрэбны, бо сам торф ці грунт пад торфам багаты фосфарам.

Пад капусту дадаюць яшчэ каля 10—12 пуд. сялетры.

На маховых балотах, апрача фосфаравых і паташовых ухнаеньняў, дадаецца і азотныя — сялетра 10—12 пуд. на дзесяціну, вапна 110—150 пуд. і попел 100—130 пуд. На

балоце станцыі ўжываецца хлеўны гной, лубін і сэрадэля як зялёное ўгнаеньне.

**Што засявае станцыя на балоце.** Менская балотная станцыя ў працягу 11 гадоў сее наступныя гатункі збожжа і мае такія ўраджаі:

*Авёс* дае сярэдні ўраджай з дзесяціны каля 120 пудоў зярня і 270 пуд. саломы (ураджай вагаецца ад 90 до 150 пуд. зярня і 190—350 пуд. саломы).

*Віка—аўсяная сумязь* дае ў сярэднім каля 340 пуд. сена.

*Бульба* — сярэдні ўраджай 1200 пуд. з дзэсяціны, у 1926 г. дасягаў нават да 1800 пуд.

*Жыта* — у сярэднім каля 110 пуд. зярня і 190 пуд. саломы; у 1927 г. жыта атрымана з дзесяціны 170 пуд. (зярня).

*Канаплі* — ураджай насеньня 38 — 50 пуд. і саломы 380—500 пуд.

*Капуста* — ураджай 1800—2400 пуд. з дзесяціны, сярэдні—2000 пуд.

*Кармавая рэпа* (турнепс) у сярэднім 3000 пуд. (дае да 4000 пудоў з дзесяціны).

*Кармавая морква* — 1600—2200 пуд.

*Ураджай траў*—400 пуд. сена з дзесяціны за 2 укосы.

Апрача таго на станцыі сеецца і гароднiна, якая на балоце добра расьце.

**Якія травы сеець Менская станцыя.** Станцыя ўжывае тыя травы, якія добра растуць на даннай мясцовасьці. Мяшанкі робіць найпрасьцейшыя. Цяпер ужываецца пераважна наступная сумязь: 15 фун. чырвонай канюшыны, 15 фун. швэцкай і 25 фун. цімафейкі на дзесяціну. У першы год травы даюць ураджай сена ў сярэднім каля 215 пудоў, у другі — 450 п. і ў трэці 335 пуд. Ураджай траў на 3—4 год зьмяншаецца і станцыя ізноў абсявае сьвежымі травамі.

Балотная станцыя ў Менску ў апошнія часы паставіла досьледы на ўзровень заходня-эўрапейскіх станцыяў. Штодзённа на станцыю прыбываюць партыі экскурсантаў як сялян, так і вучняў ня толькі з суседніх мясцовасьцяў, але і з далёкіх краін Беларусі і ўсяго саюзу Радавых Рэспублік.

*Лугавод.*

# Нашы лугавыя травы.

Прышла восень. Селянін сабраў ураджаі са сваіх ніваў і сенажацяў і з жахам пазірае на свой шчуплы запас корму на зіму. Штогод сельскі гаспадар на Беларусі перад абжорлівай зімой збывае лішнія раты ў хляве, каб даць магчымасьць, хаця ў прогаладзь, пражывіцца самаму неабходнаму ўгаспадарцы жывому інвэнтару. Штогод Беларусь перажывае востры кармовы крызыс.

Здаецца, маем мы шмат сенажацяў, не такіх ужо і дрэнных па натуральным сваім якасьцям. Маем мы ахвоту да працы, бо ў гультайстве яшчэ нас ніхто не папракаў, а жывём стала ў убостве і часта праклянаем найсьвяцейшую крыніцу існаваньня ўсяго чалавецтва — сельскую гаспадарку.

Чаму гэта?

Вось пытаньне, над якім цяпер калі хто і задумваецца, дык толькі павярхова. Мы ня раз на старонках нашае часопісі падкрэсьлівалі, што наш край—край земляробскі і будучыня яго залежыць ад узроўня гэтае галіны народнае гаспадаркі. Земляробства ў нас у заняпадзе. Наш селянін яшчэ мучыцца пры дзядоўскіх парадках, часта апутаны markdown розным і забабонамі, як вынікам нашае адсталасьці. У сельскае гаспадарцы пануе сяньня хаос.

Паглядзімо на нашы сенажаці з дзікай, маласпажыўной травой і з мізэрным ураджаем і зьвярнём на гэта пільную нашу ўвагу, бо ад разрашэньня кармавога крызысу—гаспадару разьвязваюцца рукі на паляпшэньне і іншых галін сельскае гаспадаркі.

Каб прывесьці ў культурны стан нашы сенажаці, мы тут часта мусім правясьці радыкальныя паляпшэньні, якія патрабуюць (разам з іншымі мерапрыемствамі) і іх абсемяненьне больш адпаведнымі гатункамі траў. Знаёмства з гэтымі травамі патрэбна кожнаму сьвядомаму гаспадару.

Вось галаўнейшыя з іх:

**Мурог лугавы**, парасейску—овсяница луговая, палац.—Festuca pratensis.

Расьце кустамі. Разьвіваецца досыць хутка і красуе ўжо ў пачатку чэрвеня. Мурог, скошаны ў часе красаваньня, дае першаякаснае сена. Атава хутка адрастае. Гадзіцца як на сенажаці, так і на пасьтвішчы. Найбуйнейшага росту травы мурог дае на 3-4 год і, даючы добрыя ўраджаі травы, трымаецца на адным месцы доўга. Удаецца на ўсялякіх глебах, абы яны ня былі занадта сухімі. Пры нашым клімаце не вымярзае. На мокрых тарфяніках расьці ня любіць. У некаторых краёх мурог сеюць разам з канюшынай, ці-



Мурог лугавы.

мафейкай і купкоўкай і на культурных глебах для шматгадовага карыстаньня травой.

Пажаданна мурог разводзіць у нас на насеньне, якога можна атрымаць да 30 пуд. з дзесяціны.

Мурог у травяных сумязях ужываецца як галоўнейшая частка.

Расьце на нашых лугах у дзікім стане.

**Мурог чырвоны**, парас.—овсяница красная, палац.—**Festuca rubra.** Падобна да мурога лугавога — цэнная трава для нашых штучных лугоў і пасьтвішч. Расьце ў дзікім стане па межах, пагурках, сенажацях і навет можна сгаткаць на тарфяніках. Удаецца добра на ўсіх глебах. Травастой дае нізкі і запаўняе пустыя месцы паміж куставымі травамі. Уся расьліна мае цёмна-зялёны колер, а мяцёлка па распуканьні бывае чырвонай, адкуль і назоў гэтае травы.

Хаця сена чырвоны мурог дае ня першай якасьці, але ўраджай атрымліваецца высокі. Галоўным чынам трава гэта цэніцца за хуткае задзярненьне сенажаці. Чырвоны мурог не баіцца марозаў, сушы, вільгаці. На адным месцы дзержыцца доўга.

На рынку насеньне цэніцца дорага і рэдка бывае добрай якасьці.



Купкоўка.

**Купкоўка,** парасейску—ежа сборная, палац.—**Dactylis glomerata.**

У дзікім стане расьце ў садох, каля дарог, па лепшых сенажацях і г. д.

На добрых землях купкоўка можа вырасьці вышэй мэтра. Расьце хутка; дае 2—3 укосы ў год. Добра зносіць утаптываньне скацінай, дзеля чаго гадзіцца для пасьтвісак. Не баіцца засені. Можа даваць добры ўраджай 4—5 гадоў. Расьце на сухіх глебах; можа—і на асушаных тарфяніках. Купкоўка—расьліна куставая. Старая трава купкоўкі падобна да цімафейкі дае жорсткае сена, дзеля чаго яе косяць да красаваньня.

**Мурава звычайная,** парасейску—мятлик обыкновенный, палац.—**Poa trivialis.** Спатыкаецца на нашых сенажацях у дзікім стане. Сена дае добрай якасьці. Надаецца для штучных сенажацяў, таксама годна і для пасьтвісак.

Насеньне звычайнай муравы ў нас толькі—паходжаньня заграні̇чнага.

Да звычайнай муравы падобна—мурава лугавая (**Poa pratensis**). Мае лісьцё трохі вузейшае, каласкі буйнейшыя і расьлінка больш цёмнага колеру, чым мурава звычайная. Ня так гадзіцца як апошняя на глебах мокрых.

У травяных сумязях для штучных лугоў займае першачароднае месца.

**Мятлюг**, парасейску—полевица. палац.—Ahrostis.

Па сырых сенажацях расьце ў дзікім стане. Мае некалькі адмен. Надаецца для лугоў і пасьтвісак. Не баіцца



Мурава звычайная.



Мятлюг.

марозаў і вільгаці. У сумязі з іншымі травамі добра нада ецца для мокрых сенажацяў і тарфянікаў. Насеньне ў нас паходжаньня заграннічнага.

**Райграс францускі**, палац·—Avena elatior. У нас у дзікім стане не спатыкаецца. У нашым клімаце рэдка ўдаецца, бо баіцца вялікіх марозаў. Любіць добрыя глебы, багатыя вапнай.

Расьліна вельмі цэнная, дзеля чаго шмат хто яе рэкамэндуе даваць у травяную сумязь. Расьце добра 2—3 гады, пасьля чаго ўкосы паступова зьмяншаюцца.

**Райграс італьянскі**, палац.—Lolium italicum.

Хаця гэта трава пры нашых умовах „госьця", але, дзякуючы таму, што дае вельмі высокі ўраджай, яе можна ў нас рэкамандаваць, як траву аднагадовую. У першы год дае высокі ўраджай. Нашае зімы баіцца. Добра надаецца для падсеву пасьля гадовага карыстаньня канюшыны. У гэты час апошняя памяншае ўраджай сена, а падсеў італьянскага райграсу адразу павялічвае травастой.

*Лугавед.*

# Крупчакі ці фіноз сьвіньней.

Кожны селянін, колючы сьвіньней, пэўна заўважыў на мясе і на сэрцы сьвіной тушы белаватыя круглыя пузыркі велічынёю ад галоўкі шпількі да гарошыны.

Гэтыя пузыркі завуцца фінамі. Сяляне завуць іх „крупкаю, крупою“, а фінозных сьвіньней--крупчакамі. Названая фіна (крупка) ёсьць маладая лічыначная стадыя ў жыцьці істужкавай глісты-салітэра, якая часам жыве ў тонкіх кішках чалавека. Праз павялічваючае шкло мікроскопу можна ўбачыць, што фіна складаецца з галоўкі, шыйкі і хваставога пухірка. З бакоў галоўкі разьмяркованы 4 прысоскі, а паміж імі хабаток, абкружаны вяночкам з 20-40 кручкамі. Фіна ў сьвінным мясе расьце, перапаўняецца асаблівай харчовай жыжкаю і можа дасягнуць велічыні бобу. Жыцьцё фіны ў целе сьвіньні цягнецца звычайна ня больш 3-6 гадоў і ў рэдкіх выпадках да 20 год.

Дзеля дальнейшага свайго разьвіцьця фінам неабходна трапіць у жывот чалавека, што і бывае даволі часта з людзьмі, якія ядуць недаваранае фінознае мяса сьвіньней.

Папаўшы ў жывот чалавека, жывая фіна пад уплывам пажыўных сокаў арганізму чалавека звальняецца ад мяса, у якім яна знаходзілася, і пападае ў тонкую кішку. Там галоўка фіны сваімі саскамі і кручкамі моцна прысасваецца да абалонкі кішкі. Ад шыйкі пачынаюць расьці членікі, колькасьць якіх праз 11-12 тыдняў дасягае да 300 і такім чынам фіна абарачваецца ў чалавечую глісту-салітэра даўжынёю да 3-х сажняў. Салітэр у кішэчніку чалавека мае багата харчоў і хутка расьце. У кожным члеііку яго зьяўляюцца палавыя органы, а далей, і яйкі--лікам да 53 тыс.

На працягу месяцу адзін салітэр аддзяляе каля 2-х мільёнаў яек. Яйкі разам з членікамі выходзяць на двор у спаражненьні чалавека і чакаюць выпадку трапіць у кішэчнік сьвіньні дзеля далейшага разьвіцьця. Такім чынам адбываецца перадача заразы ад сьвіньні да чалавека і ад чалавека да сьвіньні. Яйкі салітэра могуць трапіць і ў жывот чалавека, напр., пры ядзе з бруднымі рукамі або пры рвоце людзей хворых салітэрам, то ў гэтым разе і чалавек можа захварэць фінозам. Яйкі солітэра пакрыты вельмі моцнай абалонкай, якая захоўвае іх ад высыханьня і гніеньня на працягу некалькіх тыдняў.

Сьвіньні, якіх выпушчаюць хадзіць вольна па дварох каля адходных месц, ядуць яйкі салітэра, з якіх у сьвінным мясе вырастаюць фіны.

Якія-ж спосабы можна і неабходна прыняць, каб пазбавіцца фіноза сьвіньней? Лячыць заражаных фінозных сьвіньней — крупчакоў бескарысна: іх вылечыць нельга. Трэба толькі абараняць сьвіньней і асабліва да 6-месячна-

га ўзросту, ад паяданьня чалавечых спаражненьняў і не дапушчаюць іх да адходных месц, і інш. Фінознае-ж мяса, калі ў ім фінаў ня так шмат, пры ўжываньні ў харчы, трэба добра праварыць. Мяса лічыцца гатовым, калі ў сярэдзіне яно шэравата-белага колеру.

Калі фінаў шмат, то мяса неабходна зьнішчыць, а салаператапіць. Ад задыменьня фінозных каўбас ці шынак зараза не памірае.

Людзі, хворыя салітэрам, павінны лячыцца, каб вызваліць сябе ад паразыта, інакш яны самі будуць распаўсюджваць фінозную хваробу, як паміж сьвіньней, так і людзей.

*Вэтэрынар Сярпоў.*

# Як перасаджваць старыя пладовыя дрэвы.

Часта селянін, пераходзячы на новую сялібу, або перасаджваючы свой сад, мусіць перанасіць на новае месца цэнныя старыя пладовыя дрэвы. Тут гаспадар заўсёды спатыкаецца з рызыкай на страту дрэва, бо, трэба адзначыць, што чым старэй дрэва, тым яно горш прыжывае на новым месцы.

У гэтым нарысе хачу апісаць спосаб, які я заўсёды з пасьпехам ужываў пры перасадцы старых дрэў, не таўсьцей 4 вярш. ў камлі.

Такія дрэвы трэба раней прыгатаваць да перасадкі. За год або за два да перасадкі выкапваюць вясной ці рана ўвосень наўкола дрэва роў, у адлегласьці $1\frac{1}{2}$—2 арш. ад ствала. Роў робіцца ўшырку каля $\frac{3}{4}$ арш. і такой глыбіні, каб дно яго ляжала некалькі ніжэй усіх корней, што ідуць у бок. Пры капаньні рава стараюцца ня чапаць зямлю між каранямі, каб мог трымацца карнявы ком каля ствала. Карані, спатыкаючыяся пры капаньні рава, асьцярожна перасякаюцца лапатай і канцы акуратна раўнуюцца вострым нажом. Раны пажадана змазаць садовым варам. Пасьля гэтага, з кожнай стараны кама, пачыная ад дна рава, паступова выкапваюць з-пад дрэва з камом дзікую зямлю і замяняюць яе ўгноенай. Канаву таксама засыпаюць добрай зямлёй і зямлю каля дрэва ўгнайваюць і паліваюць.

У працягу году — двух абрэзаныя карані дадуць шмат карнявых мочак, што і абясьпечвае ўдачную перасадку.

Пры вясновай ці восянскай перасадцы дрэва, пасьля паўторнага капаньня рава, усю зямлю каля кама адкідваюць вострай палкай. Паваліўшы дрэва на бок, выймаюць яго з ямы бяз зямлі і пераносяць, ці перавозяць да прыга-

таванай загадзя ямы і садзяць з усімі асьцярожнасьцямі, неабходнымі пры перасадцы і меншых дрэў. Апрача таго, трэба сачыць, каб дрэва было пасаджана ў такім самым палажэньні адносна сонца, як яно расло і на старым месцы. Калі дрэва перасаджваецца з цяністага месца на адкрытае для сонца, дык трэба і на новым месцы яго адцяніць саломай, рагожай ці іншым матэрыялам.

Тут трэба адзначыць, што пры выкапваньні дрэва, трэба пільна сачыць, каб карнявыя мочкі ня былі папсуты, бо ад іх прытутнасьці залежыць хуткае прыжываньне дрэва на новым месцы. Дзеля гэтага можна зямлю каля ствала паміж каранямі ня абіваць, а дрэва пераносіць з зямлёй — пасадка з комам зямлі. Гэты ком асабліва добра трымаецца, калі зямля прамёрзьне.

Каб лягчэй было выкапаць роў каля дрэва *зімой*, трэба яшчэ ўвосень пакрыць зямлю каля ствала гноем, ці іншым матэрыялам, каб зямля моцна не прамёрзла. Для перасадкі выбіраюць дзень, калі мароз на двары каля 10° С.

Ком зямлі каля дрэва абшываюць рагожай і абкручваюць вяроўкамі і стараюцца бяз шторханкаў перавязьці на новае месца, дзе яма ўжо прыгатавана загадзьдзя.

На дно ямы кладуць слой угноенай зямлі, якой запаўняецца пустыя месцы між каранямі дрэва і ўся яма.

Вясной, як зыйдзе сьнег і зямля абсохне, трэба добра паліць вадой зямлю каля дрэва.

Абрэзку кроны дрэва трэба рабіць у залежнасьці ад карнявых мочак; чым больш іх захавалася пры перасадцы і чым багацейшая карнявая сыстэма дрэва, тым можна менш абразаць суччa дрэва і наадварот. Летам дрэва трэба старацца захаваць ад сонцапёку, па магчымасьці яго зацяняючы.

Каб дрэва пры ветрах не калыхалася, што перашкаджае яго прыжываньню, трэба сьвежа перасаджаныя дрэвы моцна прывязваць да калоў.

Агульніваючы ўсё вышэйсказанае, трэба сьцьвердзіць, што пасьпех працы пры перасадцы залежыць ад таго, на колькі мы вызвалі рост новых карнявых мочак і наколькі мы іх захавалі пры перавозцы, пры выкапваньні і пры перасадцы дрэва. Ад іх прысутнасьці залежыць удачная перасадка.

*Садавод.*

---

*ГРАМАДЗЯНЕ! Чытайце і пашырайце сваю родную часопісь. Змагайцеся з цемрай — нашым галоўным ворагам.*

# Пладовы сад па схілам гор і пагуркаў.

Хаця наша Бацькаўшчына лічыцца па рэльефу не гарыстай краінай, але пагуркі, часта і значнай вышыні, спатыкаюцца на ўсім обшары Беларусі. Пры выбары месца пад сад гаспадар бывае прымушаны садзіць пладовыя дрэвы па схілам гэтых пагуркаў. Няўдобствы такой пасадкі дрэў бывае ў тым, што дрэвы на паўднёвым схіле пагурка церпяць недастачу вады для росту, якая хутка сьцякае ўніз, апрача таго, глеба на паўднёвых схілах сільней награваецца сонечнымі праменьямі і хутка высыхае. Каб затрымаць грунтовую ваду ў корней дрэва, прыходзіцца рабіць тэррасы на схілах пагурка, што абходзіцца гаспадару каштоўна. Дзеля гэтага я думаю, што шмат выгаднейшы і дзяшавейшы будзе спосаб наступны:

Выкапаўшы шырокую яму з прамымі сьценкамі і роўным дном, садзяць у яе дрэва і закідваюць яму ўсей зямлёй, пры гэтым, паверхні зямлі каля ствала, надаюць від, круга, пахіленага да самага пагурка, павышанага каля бакоў і ўглыбленага падобна лейцы каля самага ствала. Ра-



зумеецца, што дзеля гэтага, больш высокая частка зямлі ямы створыць выступ; вонкавая сьценка гэтага выступа прамая і мае форму паўкруга, калі глядзець на яе зьверху (глядзі рыс.). Вонкавая сьценка абкладваецца камянямі ці дзярном, а то адгаражваецца каламі для захаваньня зямлі ад размываньня вадой. Ад верхняга і ніжэйшага краёў ямы капаюць 2 равы уверх і ўніз, шырынёй і ўглыбку каля 5—7 вяршкоў; равы абкладваюцца камянямі. Адлегласьць гэтых равоў—чым далей аб дрэва, паступова павялічваецца. Звычайна яны ідуць да другіх дрэў, пасаджаных вышэй і ніжэй данага дрэва. Пры дапамозе верхніх двух равоў дажджавая вада сьцякае да дрэва, не размываючы схілу пагурка, а ніжэйшымі равамі сьцякае лішак вады пры раптоўных дажджох і адцякае таксама вада да дрэў, пасаджаных ніжэй.

Калі глеба схілу пагурка сухая, пульхная, дык для затрыманьня вады ў яме, трэба палажыць на яе дно гліны і яе прытаптаць. Гэта гліна перашкаджае прасочвацца вадзе ў ніжэйшыя слаі падгрунту.

*Садавод.*

# Значэньне каапэрацыі.

Баявым лёзунгам у цяжк м жыцьці нашага народу ў цяперашні мамэнт павінна быць паляпшэньне нашага эканамічнага дабрабыту.

Найвыдатнейшым спосабам правядзеньня гэтага ў жыцьцё — будзе разьвіцьцё каапэрацыі, падняцьце людзкой сьвядомасьці аб ёй і зразуменьне карысьці ад яе.

Дужа вялікім ворагам ідэі каапэрацыі зьяўляюцца халодныя адносіны ня толькі нашага селяніна, але навет і інтэлігента. Як магілкавы помнік, душаць яны шмат добрых ідэй, добрых пачынаньняў.

Але пара нам тую санлівасьць перамагчы і ўзяцца за працу. Ідэя каапэрацыі па сваёй яснасьці і прастаце ўва ўсіх яе відах здаецца зусім зразумелай усякаму.

Дык і запраўды няма нічога дзіўнага, або труднага ў тым, што нейкая колькасьць людзей яднаюцца дзеля таго, каб мець магчымасьць купляць сабе харачавыя або іншыя тавары, магчыма лепшага гатунку, магчыма па недарагой цане — з першых рук, а, калі патрэбна, мець нат' і недарагую грашавую пазыку, за невялікія працэнты.

Апрача сваей асабістай карысьці, людзі гэныя прыносяць карысьць агулу-грамадзе на груньце культурна-эканамічным: яны вядуць барацьбу з прыватнымі гандлярамі, з іх злоўжываньнямі, і той заробок, які йшоў у кішэні гэтых гандляроў, можа быць скарыстаны на розныя культурна-асьветныя патрэбы.

У Заходняй Эўропе ідзе каапэрацыйны арганізацыйны рух шырэйшым шляхам, як у нас. Каапэратыўныя таварыствы лічаць там сваіх сяброў сотнямі тысяч і мільёнамі. Не маючы магчымасьці гаварыць тут аб разьвіцьці сельска-гаспадарскіх і крэдытных таварыстваў у кожным краі асобна, я прыпыняюся толькі на іх разьвіцьці ў мінулым, у аднэй Швэйцарыі, тым болей, што варункі тамтэйшага жыцьця былі дужа падобны да нашых цяперашніх.

У сувязі з крайнім разьвіцьцём капіталізму, вялізарным рэакцыйным уціскам народу з боку швэйцарскіх паноў і іх дрэннай гаспадаркай у краі, у 40-х гадох XIX стагодзьдзя жыцьцё для народу стала немагчыма цяжкім. Цэны на рэчы першай патрэбы дайшлі да нязвычайных разьме-

раў. Аб выгадах жыцьця ня было мовы, трэба было бараніцца ад галоднай сьмерці.

І вось, у гэту пару зьявіліся найвыдатнейшыя людзі, якія распачалі барацьбу з разрухай і зьнішчэньнем: спачатку ў гарадох, а потым і ў вёсках пачалі паўставаць каапэратыўныя таварыствы; і яны зьявіліся як раз у час, бо-ж усё трашчэла і разваліваласся ад кіраваньня панскага ўраду, — гаспадарскі арганізм пачаў разьлязацца па ўсіх швох ад спыненьня працы і галоднага ўзбурэньня жыхароў.

На заклік маладых таварystваў адклікнуліся асобы зусім адданыя свайму люду, ня ўтраціўшыя надзеі адратаваць яго ад бяды. Яны аддалі ўсю сваю энэргію, розум і шчырую любоў свайму народу і праз умелае разьвіцьцё каапэратыўных таварystваў выбавілі яго ад галоднай і халоднай сьмерці.

Таксама і ў нас цяпер. Пара кінуць сьпячку, адкінуць нядбаласьць ды ўзяцца безадкладна за працу на гэтым груньце і выклікаць у грамадзянстве да гэтага даверые, а яно зьявіцца тады, калі аснаўная ідэя каапэрацыі будзе энэргічна пашырацца паміж грамадзянства.

*А. Ш.*

---

# Глінасаломеныя стрэхі.

Усім ведама, што гараць нашы хаты, ды з імі вёскі, гараць, ды зноў пастарому будуюцца і зноў гараць, і зноў таксама будуюцца і так бяз ко́нца І, як цуд, у спаленай вёсцы відзім ацалеўшыя адзін — два дамы, пабудаваныя рупнейшымі гаспадарамі з агняўпорных матар'ялаў, цэглы, каменя, бэтону (мешаніны пяску з цэмэнтам), ды звычайнай гліны. Гэта найлепш бяз слоў тлумачыць неабходнасьць будавацца з агнястойкіх матар'ялаў, тым болей цяпер, калі нашы вёскі пасьля вайны, ды найболей у б. прыфронтовым пасе адбудоўваюцца ня маючы лесу, а маючы пад рукамі гліну і хворост ды камні і астаткі разьбітых бэтонных акопаў. Пакідаючы на далей апісаньне ўстройства глінабітных дамоў, я хацеў-бы закрануць устройства ў істнуючых дамох глінасаломеных стрэх, каб хоць крыху памгчы вёскам у іх барацьбе з „чырвоным пеўнем". Пішу гэта цяпер дзеля таго, што да работы трэба прыступіць не пазьней траўня, бо страха такая мусіць да восені добра высахнуць.

Дзеля ўстройства такой страхі бяруць салому проста з пад цэпа і, калі яна даўгая, то калосьсе абразаюць, а калі кароткая — то астаўляюць, добра яго абмалаціўшы, каб зярна нідзе не асталося, бо інакш прарасьце і будзе затрым-

ліваць ваду пры скаце яе з страхі. Павязаўшы салому ў пучкі, сьцелюць яе ў яму ня грубым пластом ды заліваюць рашчынам гліны — ня густым, так як сьмятана, ды топчуць салому нагамі, каб з саломінак выгнаць паветра, і яны ўцягнулі бы ў сябе гліны ўсярэдзіну. У такой яме мочаць салому цэлыя суткі; пасьля, выняўшы з ямы, кладуць у цяні на пакатае мейсца, каб лішак вады сьцёк, і трымаюць яе столькі, пакуль не загатовяць на адзін рад яе, бо нельга даваць ёй прасыхаць. Пасьля робяць з жордак журавель, каб падаваць яе на страху, бо яня цяжкая, ды крыюць так, як і сухой саломай. Пучкі саломы разьвязываюцца і раскладываюцца ня грубей, як 15 ст. (цэнтымэтраў). Калі-б кроквы былі затонкія дзеля мокрай саломы, то іх падпіраюць падпоркамі, пакуль салома не прасохне, а тады зьнімаюць (мокрая салома на 1 кв. мэтр важыць да 45 кіляграмаў). Зложаную, як сьлед, салому трэба расчасаць, каб яна ўляглася раўней. Расчэсваюць дошкамі з набітымі ў іх цьвякамі, як у граблях, з гары ўніз, пасьля ўклёпываюць лаўатамі, і — страха гатова!... Саломы йдзе да 30 кіляграмаў на 1 мэтр. Такія стрэхі, пасьля як прасохнуць, паліваюць разьведзенай глінай, каб заліліся ўсе шчэлкі, якія на ёй знойдуцца; паўтараюць гэта разы са два ў першае лета і пасьля рэдка такі рамонт робяць.

Стрэхі гэтыя не баяцца пажараў, стаяць гадоў да 20 ды, як прасохнуць, то аж зьвініць, вецер іх не прадувае птушкі ня псуюць, ды служаць добрым прыкрыцьцём дому

*Гаспадар.*

## Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Некалькі гадоў у мяне азіміна засьмечана гірсой. Парадзіце, як з ёй змагацца, і ці праўда, што гірса ў мокрыя годы можа прарастаць з зярня жыта і пшаніцы?

**Сьцяпан Андрук.**

**Адказ.** Змагацца з гірсой, калі ніва ёй засорана, трэба ўпорчыва, бо выніішчэню гэты сарняк падаецца вельмі трудна.

Насеньне гірсы, занесянае на ніву (большаю часткаю самым гаспадаром) можа прарастаць толькі пры ўмовах, спрыяючых для гэтага. Для прарастаньня насеньня гірсы патрэбна шмат вільгаці, у праціўным выпадку насеньне яе можа ляжаць у зямлі шмат гадоў, ня трацячы здольнасьці да прарастаньня і раптоўна, у мокры год, могуць зьявіцца яе ўсходы ў азіміне, хаця ў гэты год гаспадар высяваў і абсалютна чыстае жыта ці пшаніцу на ніву. Гэтыя аса-

бліvасьці гірсы паслужылі прычынай вясковым забабонам, што гірса ў некаторыя годы можа вырастаць з зярня і іншых збажын.

Насеньне гірсы часта ўносіцца на ніву разам з гноем, калі яе гаспадад дае ў корм жывёле цалком, бо зярнё гірсы праходзіць цераз страўны праход жывёлы, ня губляючы здольнасьці да прарастаньня.

Гірса ня любіць цені, дзеля чаго трэба старацца сеяць культурныя збажыны ў добра падрыхтаваную глебу, каб выклікаць дружны ўсход расьлінак, якія такім чынам будуць душыць усходы гірсы.

Трэба ўводзіць у севазварот такія культуры, як бульба, караньплоды, якія дапамагаюць змагацца з гірсой.

А першым правілам тут будзе — не ўносіць гірсу на ніву ні з гноем, ні пры сяўбе.

Нішчыць гірсу полячы ніву — немагчыма, бо ўсходы гірсы да яе каласаваньня трудна адрозьніць ад жыта і пшаніцы.

**Пытаньне.** У маім сьвірну зьявіўся нейкі жучок, які псуе зярнё. Дарослыя жучкі поўзаюць па паверхні аруда і складаюць яечкі на таўсьцейшым канцы зярня. Што гэта за шкоднік і як з ім змагацца?

**Сяргей Новік.**

**Адказ.** Трэба думаць, што ў вашым сьвірні зьявіўся зярновы слонік, ці як яго яшчэ называюць — даўганосік. Кукончык*) гэтага шкодніка выядае палову зярняці, або ўсю мучністую масу. У сухіх зёрнах кукончык ходу зрабіць ня можа і тут хутка гіне. Псуюць пераважна зярнё жыта, пшаніцы, аўса і ячменю.

Сьвіран перад ссыпкай зярна трэба акуратна вычысьціць і праветрыць. Усе шчэлкі замазаць і вапнай пабяліць сьцены і падлогу. Драўляныя часткі ў сьвірні вымыць моцным лугам.

У сьвірнах, дзе ўжо зьявіўся жучок, трэба зрабіць дэзынфэкцыю серавугкяродам (дастаць у аптэцы), прынімаючы меры асьцярожнасьці пры ўдыханьні гэтага атрутнага газу.

Перш за ўсё трэба зьвярнуць увагу, каб зярнё ссыпалася ў аруды зусім сухое і добра вычышчанае ад паражоных зярнят.

**Пытаньне.** Я чуў, што некаторыя гаспадары з пасьпехам разводзяць цыбульны ячмень. Што гэта за расьліна і ці можа яна расьці пры нашым клімаце і нашых глебах?

**Язэп Кулакоўскі.**

*) Асобая стадыя разьвіцьця жучка.

**Адказ**. Цыбульны ячмень (па лацінску — Hordeum bulbosum Lin) расьце ў дзікім стане на паўдні Эўропы кустамі ў $1^1/_2$ арш. вышынёй. Камлі маладых атожаляў утаўшчоны падобна цыбуліне. Гэтыя нарасты ячменю ўжываюць як харчавы прадукт. Мае смак прыемна-саладкаваты.

Трэба думаць, што цыбульны ячмень можа расьці на нашых глебах і пры нашым клімаце, што даказвае культура яго ў школьных садках.

Пажадана было-б, каб нашы сяляне—дасьледчыкі спрабавалі яго заводзіць у сябе хаця-б з дасьледчай мэтай.

Ад пасаджаных вясной расьлінак увосень можна атрымаць клубні, якія можна зьбіраць, ня зьнішчая пры гэтым старых кустоў. Расьлінка можа расьці на адным месцы шмат гадоў.

Рэдакцыя „Сахі" стараецца набыць ячменю і выслаць на развод па некалькі зярнят сваім падпішчыкам на наступны год.

**Пытаньне.** Чаму ня можа пачынаць у гаспадарцы *новых* работ у панядзелак і ці мае гэты пагляд якую-небудзь падставу?

**А. С.**

**Адказ.** „Саха" забубонамі не займаецца і на падобныя пытаньні звычайна не дае адказу. Але атрымліваючы некалькі раз ад нашых менш сьвядомых падпішчыкаў падобныя пытаньні—лічыць сябе вымушанай даць на гэты раз адказ.

У прыродзе ўсе дні роўныя. Калі-ж нашы сяляне шмат дзе па глухіх кутках нашае Бацькаўшчыны сур'ёзна не пачынаюць новых работ у панядзелак, дык гэтыя забубоны прышчапіліся на вёсцы, трэба думаць, па тэй прычыне, што пасьля папойкі ў нядзелю, у панядзелак з пахмельлю яму ў рабоце не шанцавала. Гэта дало повад лічыць, што панядзелак — дзень няшчасны. Дык, як відаць, тут нясе няшчасьце не панядзелак, а проста манаполька, да якой большаю часткаю „ахвяры панядзелку" ласы.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі—Вільня, вул. Св. Анны 2-3

**Выдавец і Рэдактар А. Уласаў.**